

ВЫХОДЗІЦЬ З ЧЭРВЕНЯ 1994 ГОДА

# Беларуская МАЛАДЗЕЖНАЯ

*Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета* № 22

*Детлеф ДИКС, директор Ассоциации Муниципалитетов Саксонии (Германия):*

## "Мы искренне хотим помочь вашей республике быстрее развернуть реформы"

( стр. 4 )




*М. ПЛИСКО, председатель исполкома ОДПБ:*

## БЕЛАРУСЬ: TERRA INCOGNITA

( стр. 3 )

*Вольга БАБАК, "БМ":*

## "ВЫВАДНІКІ"

( стар. 6 )

## ПраРОК

( стар. 7 )

*Н. КОПЧЕНОВ, "БМ":*

## Как рубель "сел на мель"

( стр. 2 )



## Жыццё ў стылі "БМ"

( стар. 8 )

Милицейская курилка "БМ"

## ШИБАЛИЗМЫ

( стр. 6 )

**Чаму не адбылося пахаванне студэнта, памёршага галоднай смерццю і з'едзенага прусакамі**

( стар. 5 )

## НАРАДЖЭННЕ ДЗЕЛЯ АДРАДЖЭННЯ?..

**У Маладзечне ствараецца новая маладзёжная арганізацыя**

( стар. 5 )

# Прэзідэнцкая Мілка ўсіх не напоіць, прэзідэнцкая Лада ўсіх не аббрэша!

# БЕЛАРУСЬ: TERRA INCOGNITA




**БЕЛАРУСЬ в ожидании. Весной 1995 года состоятся очередные парламентские выборы. Пока вопросов больше, чем ответов. С уверенностью можно сказать лишь одно: те партии, которые еще не приступили к подготовке, безнадежно отстали от конкурентов в предстоящей гонке за власть. Впрочем, если партии большинства бывших "братских" республик успели поднакопить опыт в нескольких избирательных кампаниях, т.е. им было где учиться плавать, то Беларусь и здесь подтвердила свою репутацию Вандеи, поскольку осталась единственной страной бывшего СССР, где продолжает существовать парламент образца 1990 г. И все же "диванные" партии получили в этом году возможность показать себя, ибо выборы первого президента страны происходили на многопартийной основе.**

Известно, что двухпартийная система в США сложилась в первой половине XIX века только после того, как президент получил право самостоятельно назначать своих сограждан на ответственные посты в государстве. Естественно, что в числе этих избранников были его сторонники. Сегодня это право активно использует первый Президент -- "Батька", как он себя называет. Тут есть над чем задуматься беспартийным политикам, желающим приобщиться к "власть придержавшим".

Более двадцати пяти партий заявили свои претензии на власть. Кто-то раньше, кто-то позже. Патриархом среди политических субъектов является Объединенная демократическая партия Беларуси (ОДПБ), которая придерживается либеральных (в европейском понимании) позиций. Ее учредительный съезд прошел в 1990 г. Сейчас ОДПБ значительно прибавила в скорости и активно ведет подготовку к предстоящим выборам в парламент. Хорошим уроком послужила для нее прошедшая кампания по выборам президента. Именно она доказала многим "Фомам неверующим", что у нее есть не мало дееспособных организаций. Без них она не смогла бы собрать 50 тыс. подписей из 130 тыс. в поддержку С.Шушкевича.

Конечно же, не все партии реально смогут вести борьбу за места в парламенте. Немало трудностей придется преодолеть самой организованной и влиятельной силе -- Белорусскому народному фронту. Ставка на прибалтийский путь в условиях, даже отдаленно не напоминающих приблтийские, оценка действительности допутчевскими категориями (ничего, мол, не изменилось) и, наконец, неудача г-на Пазьняка на президентских выборах, безусловно, не будут способствовать расширению электората БНФ. Попытка поднять свой рейтинг путем создания "теневого правительства" вряд ли увенчается успехом в стране, где установилась президентская, а не парламентская республика. Справедливости ради следует отметить, что практика работы "теневого правительства" сама по себе очень полезна, так как дает возможность привлечь интеллектуалов и квалифицированно обсудить на его заседаниях проблемы, стоящие перед страной.



Серьезные трудности переживает уже было закрепившаяся в пятерке наиболее влиятельных политических сил страны Партия народного согласия. Относительная неудача лидера партии, мэра г.Молодечно, г-на Карпенко (партийные структуры не собрали необходимые для регистрации его кандидатом в президенты 100 тыс. подписей), уход в другую партию главного идеолога экономической концепции, левого социалиста г-на Довгеля, видимо, серьезно скажется на ее готовности на равных участвовать в предвыборной гонке с БНФ, ОДПБ и БСДГ.

Власть имущие" всегда любили говорить о слабости существующих партий в стране. Но, похоже, чем больше заклинаний об этом произносится с высоких трибун, тем отчетливее видна боязнь президентской команды этих самых "куриных" и "диванных" партий. Иначе зачем было Президенту во всеуслышание заявлять, что если парламент все же решится принять избирательный закон, построенный на пропорционально-мажоритарной основе, то он наложит на него свое президентское вето.

Тревога Президента понятна. С этим парламентом можно и не церемониться -- он доживает свой срок, а вот с будущим... Ведь по рожденной в муках Конституции страны Президент не может досрочно распустить парламент ни при каких обстоятельствах. Поэтому от того, кто победит на выборах, во многом будет зависеть дальнейшее развитие политических и экономических процессов в стране и, не исключено, одну треть голосов, необходимых для блокирования принятия парламентом неугодных Президенту законодательных актов, могла бы обеспечить президентская вертикаль, но и тут вышла небольшая заминка. Действие принятого под давлением Президента столь необходимого ему Закона приостановлено Конституционным судом. Похоже, что Конституционный суд из пассивного субъекта (именно такая роль отводилась ему в момент создания) может превратиться в очень неудобного партнера для Президента, парламента и для местных советских чиновников, которые попринимали много законов и нормативных актов, не только нарушающих основные права и свободы человека, но и противоречащих здравому смыслу.



Конечно, хорошо было во времена Кебича, когда все ветви власти дудели в одну дуду. Не то что сейчас. Например, спикер парламента, пока г-н Лукашенко был на лечении, возьми да и начни свою собственную игру. Так, на устроенном им совещании с лидерами политических партий, созванном якобы для обсуждения закона о выборах, он, неожиданно для собравшихся, посвятил почти всю свою вступительную речь необходимости заключения договора об общественном согласии. За что позднее и получил "выговор" от самого Александра Григорьевича. По мнению Президента, "Председателю Верховного Совета просто не солидно было начинать борьбу за лидерство".

Как все же хорошо, что у Президента есть прямой выход на средства массовой информации (пресса, радио, телевидение), и он всегда напрямую, как когда-то г-н Кебич, может обратится к народу и дорассказать, и дообъяснить ему то, чего не поняли господа журналисты из независимых пока газет.

Казалось бы, контуры будущих хитросплетений политического развития наметились. У нас есть двадцать семь политических субъектов, вынужденных действовать в рамках драконовского закона "о политических партиях", есть свой Президент, парламент, возглавляемый спикером, и Конституционный суд. Почти все как в России. Не хватает только экономики, мало-помалу выкарабкивающейся из экономического кризиса. Ведь именно это обстоятельство и может стать решающим фактором непредсказуемости результатов будущих парламентских выборов. А пока все к ним только готовятся. Хотя цыплят по осени считают, нам на сей раз это придется сделать весной.

***М. ПЛИСКО,***
***председатель исполкома ОДПБ, депутат Мингорсовета***

## ● Брестские новости

### СПРУТ НЕ ПРОЙДЕТ?

Созданная по указанию Президента Беларуси комиссия по изучению работы местных органов власти с письмами и обращениями граждан продолжает "наводить шорох" на Брестчине. Сейчас президентские контролеры трудятся в Ивацевичском районе. Многими наблюдателями отмечается, что проверки неспроста проводятся накануне назначений рядовых исполнителей в президентской вертикали власти.

### ТАК ВОТ В ЧЕМ СОЛЬ!

Мало кто знает, что Брестский облисполком принял решение, которое предлолагает активную рекламную кампанию... важности употребления пищевой соли. С добавлением микроэлементов фтора и йода (ее выпуск освоил Мозырский солеварочный комбинат). Предприятиям промышленности предлагается увеличить ассортимент хлебных и колбасных изделий, плодоовощных консервов с добавлением именно этого вида соли. Фтор и йод способствуют профилактике заболеваний щитовидной железы и кариеса зубов, что в условиях нашей радиационной обстановки можно считать весьма актуальным. Вот только население не в курсе, да и обычная соль дешевле...

### ЧАСТНАЯ "ЗАЩИТА": НАДЕЖНО И ВЫГОДНО?

Первым в Брестской области частным адвокатом, утвержденным официально, стал тридцатилетний пинчанин Николай Самуйлик. Эта квалификация присвоена ему недавно специальной комиссией адвокатов Республики Беларусь. Данные права предоставляют Н.Самуйлику возможность выступать в роли защитника по уголовным, гражданским и административным делам, а также в хозяйственном суде.

### СКОЛЬКО ПОЛИТИКОВ -- СТОЛЬКО И МНЕНИЙ

На этой неделе в Бресте проведена научно-практическая конференция "Современный общественно-политический процесс на Брестчине и в Республике Беларусь". В виду присутствия представителей всех ветвей власти (в том чиле и от Президента Беларуси), депутатского корпуса, партийных активистов и просто людей, неравнодушных к политическим наукам, конференция получила подобающий для таких мероприятий вес. При общем лояльном тоне по отношению к задуманным А.Лукашенко переменам в структурах власти, высказано немало замечаний и соображений относительно будущей президентской вертикали и о проблемах местного самоуправления. Характерным можно считать высказывание зампреда Брестского горсовета Н.Яромича: "Говорить о ликвидации представительной власти не приходится, но нужно четко определить, кто будет непосредственно работать с обращениями граждан, если исполком станет подотчетен исключительно Президенту, а полномочия Советов значительно урезаются".

Детлеф ДИКС,
директор Ассоциации Муниципалитетов
Саксонии (Германия):

# "Мы искренне хотим помочь вашей республике быстрее развернуть реформы"

ИДУТ ли реформы в нашей республике? На этот вопрос я слышала множество вариантов ответов, причем диаметрально противоположных. Как правило, большинство людей, занимающих высокие посты в пирамиде власти, считают, что реформы идут, пусть медленно, но мы движемся вперед, принимаем цивилизованные, демократические законы, строим правовое государство, живем по новой Конституции. Депутаты оппозиции БНФ в Верховном Совете настроены категорично: реформы буксуют, да и не может быть движения вперед. С ними полностью солидарны и многочисленные зарубежные эксперты, специалисты, заинтересованно изучающие нашу экономику, законодательную базу и искренне желающие помочь, поделиться опытом, предостеречь от ошибок. Не будем сегодня анализировать ход экономических реформ. Экономические реформы были провозглашены, но пока государство остается главным владельцем собственности и средств производства, никаких кардинальных изменений и быть не может.



Известный американский предприниматель -- меценат Джордж Сорос, отзываясь об экономическом положении Республики Беларусь, отметил, что он не видит здесь никаких признаков экономических реформ.

"На Украине и в Беларуси боятся радикальных реформ", -- считает бывший вице-премьер Польши Лешек Бальцерович. Но нужно понять, что мы платим гораздо большую цену и больше страдаем в тех случаях, когда реформы не проводятся. "Я был во многих странах, в том числе и в Беларуси, и констатировал, что экономическая ситуация там самая плачевная", -- говорит Л.Бальцарович.

Реформы местного управления зависят от политического климата, отношений между законодательной и исполнительной ветвями власти, от методов осуществления власти, состояния прав человека, прав оппозиции, свободы прессы. Невооруженным глазом видно, что в действиях Президента наметились тенденции к авторитаризму. Стремление создать единую неограниченную бюрократическую вертикаль президентской власти приводит к тому, что люди лишены возможности избирать руководителей исполнительной власти, а в деревнях -- иметь свои представительские органы. Какая уж тут демократия!..

Процесс демократизации в странах Центральной, Восточной Европы, Балтии, Росии, Беларуси, на Украине начался примерно одновременно -- в начале 1990 года. И наши стартовые условия были не самые худшие. Почему же тогда даже страны Балтии ускакали от нас семимильными шагами вперед, а мы с нашими толерантностью, менталитетом и "памяркоўнасцю" так и остались в хвосте, пресловутым заповедником и Вандеей? Уж не потому ли, что хотим идти своим тернистым путем, набивая свои шишки и ссадины, не желаем учиться у соседей, перенимать их опыт? Ведь есть же общепризнанная Европейская Хартия территориального самоуправления, есть же интересный опыт муниципальных реформ в Венгрии, есть же двухуровневая муниципальная система демократического унитарного государства Дании, есть латвийская модель, очень похожая на датскую, есть польский вариант...

Вспоминаю одну пресс-конференцию, которую проводила группа народных депутатов Верховного Совета после поездки в Польшу, где белорусские парламентарии встречались с представителями Комиссии по территориальному самоуправлению Сейма, бургомистрами, побывали в гминах, пообщались с простым народом. Большая часть депутатов (Виктор Каковка, Александр Спиглазов, Валерий Зеленин) с восторгом делились впечатлениями с журналистами, что конкретно можно применить у нас. А вот заместитель парламентской комиссии по государственному строительству Михаил Адамович Козючиц прямо и безапелляционно заявил, что "все это, возможно, и интересно, но мы должны искать свой, белорусский путь". Вот и ищет наш высший законодательный орган, три раза за последние два года внося изменения и дополнения в Закон о местном самоуправлении и местном хозяйстве, принимает президентские поправки, противоречащие принятой полгода назад новой Конституции, потом спохватывается и подает сам на себя в Конституционный суд. Может это и есть наш, сугубо белорусский путь, запутанный, тернистый метод проб и ошибок?

Но ведь сейчас нельзя уже оправдываться незнанием, отсутствием информации, невозможностью ознакомиться с законодательной базой других стран, изучить опыт соседей. Все это есть, как говорится, было бы только желание...

Информационно-Образовательный Центр при Белорусском Республиканском Фонде Поддержки Демократических Реформ разработал "Концепцию реформирования государственного управления на местном уровне и системы местных представительных органов власти в Республике Беларусь". Этот документ всесторонне обсужден и одобрен 23 сентября республиканской конференцией "Реформы местных органов власти", в которой участвовали депутаты Верховного Совета, местных Советов, мэры городов, работники исполкомов, юристы, экономисты, политологи. Кстати, только за последние два месяца Информационно-Образовательный Центр организовал поездки народных депутатов Советов всех уровней в Польшу, Венгрию, Литву, Латвию для изучения опыта муниципальных реформ этих стран. 5 ноября в Минске, в Доме литератора ИОЦ организовал встречу с экспертами по муниципальным вопросам из Дании и Латвии. Кстати, в качестве идеальной модели для разработки Концепции рассматривается двухуровневая муниципальная система демократического унитарного государтсва -- Датского Королевства. Представители ассоциации местного управления Дании Брайн Николс и Петер Корсби подробно и доходчиво разъяснили преимущества их системы, а исполнительный директор Союза Самоуправления Латвии Петерис Романовскис, руководитель департамента проблем самоуправления Марис Пукис, профессор Латвийского университета Эдвинс Ванагс рассказали, как успешно они применяют датскую систему в своих реформах. На этой встрече приняты программы долгосрочного сотрудничества между экспертами Центра Проблем Самоуправления и экспертами муниципальных организаций Латвии и Дании.

Я думаю, как-нибудь позже мы обязательно на страницах "Беларускай маладз±жнай" более подробно расскажем о муниципальной системе Дании. А сейчас мы продолжим знакомить вас с ходом реформ в странах бывшего так называемого "социалистического лагеря". Напомню, что в N 13 "БМ" речь шла об опыте муниципальных реформ в Венгрии.

Сегодня попробуем в общих чертах рассказать, что происходит в Восточной Германии. И поможет нам сделать это исполнительный директор Ассоциации Муниципалитето Саксонии Детлеф ДИКС.

-- Настоящие реформы начались у нас в феврале 1990 года, и разварачивалось все очень быстро, без раскачки. Нам было легче: мы не смотрели по сторонам, как это делают сейчас белорусы (то в сторону России, то в сторону стран Восточной и Центральной Европы, то Балтии). Мы знали, что пойдем по пути Западной Германии, но должны были выбрать модель какой-то определенной земли.

**-- А что, законы разных земель существенно отличаются?**

-- Не все. Есть определенные рамки Конституции, законодательства, но законы, касающиеся коммунальной собственности, могут отличаться. Есть две различные модели муниципальной администрации, две формы коммунальной собственности. Одна -- дуализм, северо-немецкая модель Конституции. Есть бургомистр, который избирается народом и есть исполнительный директор администрации, который назначается Советом. Мы посчитали, что такая "двуглавая" модель не подходит для быстрого развития, и решили остановится на южно-немецкой модели коммунального устройства. Согласно южно-немецкой Конституции, главными органами муниципалитета и бургомистр. Муниципальный совет разрабатывает уставы (местные законодательства) и утверждает муниципальный бюджет. Бургомистр является одновременно и руководителем Совета и главой администрации, сочетает и исполнительную власть, и законодательную. Но в Совете он имеет только один голос. В Саксонии -- прямые, всенародные выборы бургомистра.

**-- Детлеф, может ли у вас в Саксонии, да и вообще в Германии, возникнуть такая конфликтная ситуация, как у нас сейчас -- с Законом о местном самоуправлении, Президентом, Конституционным судом? Были ли у вас такие острые моменты в самом начале?**

-- Однозначно скажу: нет. У нас в Конституции есть гарантия для развития самоуправления. Я весной здесь, в Минске, на междугородной конференции уже говорил, что в Конституции у вас должны быть две очень важные статьи: гарантия самоуправления (основанная на Европейской Хартии территориального самуправления), и вторая... (вот тут у нас произошла заминка, поскольку переводчик очень долго уточнял какие-то термины у Детлефа, сетовал, что у нас и понятий таких нет), и перевел примерно так: если Верховный Совет принимает Закон о местном самоуправлении, он должен консультироваться с общинами, муниципальными союзами, которых в Беларуси еще нет), прежде чем окончательно что-то принять, он должен прислушаться к мнению, знать, чего хочет сам народ, община, совет...

У вас верховная власть должна перестроить политическое мышление: от централизованного к децентрализованному.

И обязательно муниципалитеты должны иметь как права, так и финансовые возможности, чтобы бюджетом своим распоряжались сами Советы, чтобы они могли решить свои региональные проблемы. Это дело не государства, а именно местных структур самоуправвления. Как раз это все предусматривается в "Концепции реформирования местных органов власти", разработанной Информационно-Образовательным Центром при Фонде имени Льва Сапеги.

И Президент, и Верховный Совет избираются народом. И они должны вести диалог, консультироваться с народом. Этого у вас пока не получается, к сожалению. Надо работать, говорить вместе. Иначе не может быть ни прогресса, ни успеха.

Но все это возможно лишь при нормальном развитии экономики. Конечно, без инвестиций вам не обойтись...

**-- Детлеф, немцы в нашем представлении всегда отличались прагматизмом, рациональностью, деньги на ветер не бросают, и прежде, чем их куда-то вложить, серьезно обдумывают и взешивают. Посмотрев на наше экономическое положение, политическую обстановку, решится серьезный, здравомыслящий человек вкладывать свои средства в нашу экономику, помогать?**

-- Здесь нет базы для инвестиций, возможности покупать землю, кредиты взять почти невозможно, драконовская налоговая система, огромная сумма уходит на налоги. И каждый потенциальный инвестор подумает. Необходимы новые законы, которые облегчат процесс инвестирования. Необходим хотя бы нормальный Закон о свободных экономических зонах.

Я считаю, что есть острая необходимость проведения в Беларуси семинаров по самым общим вопросам коммунального самоуправления, без углубления в тонкости, для Кабинета министров, для депутатов Верховного Совета, мэров городов в образовательных целях, чтобы они поняли смысл, предназначение механизма функционирования самоуправления. Люди просто не знают, не понимают, для чего это нужно. Не может быть продуктивных, радикальных реформ без взаимодействия правительных структур и других прогрессивных сил,таких, как Фонд имени Сапеги, например. Необходимы поиски правильных путей, возможно, даже компромиссов.

**-- Детлеф, как вы считаете, по сравнению с другими восточноевропейскими странами, у вас реформы идут довольно быстро, и по тому ли пути вы пошли? Нет ли у вас теперь колебаний и сомнений, что можно было избрать другой вариант?**

-- Только тот, кто ничего не делает, не совершает ошибок. Возможно, конечно, были другие пути. Но реформы у нас идут достаточно быстрыми темпами. Мы понимаем, что было две немецкие страны с разными уровнями развития, сейчас мы -- единая Германия, и нам надо догонять западную часть. Я повторяю, нам легче, и мы довольно быстро идем. А в Росии, Венгрии, Чехии, на мой взгляд, реформы начнут ощущаться лет через 20, минимум.

Я надеюсь, что выборы весной будущего года смогут повлиять на расстановку сил, приведут к изменениям в структуре органом власти. Лишь в том случае, если демократам удастся набрать значительное количество голосов и изменить соотношение в свою пользу, что-то изменится. Реформы пойдут, пусть не так быстро, как у нас, но мы готовы работать вместе. Мы ведь все живем в Европе, строим общеевропейский дом.

Совместно с Фондом имени Сапеги хотим создать Союз общин, будем разрабатывать вместе муниципальные законы. В ближайшие полгода готовимся провести 12 международных образовательных семинаров по основам коммунального самоуправления для юристов, ученых, депутатов, экономистов (понимаем, что количество участников семинара ограничено, поэтому надеемся, что они эти идеи, знания будут распространять, делиться опытом. Конечно, все это требует немалых средств, но обещает помочь финансами Европейский Союз, Союз немецких городов.

Поверьте, мы искренне хотим помочь вашей республике быстрее развернуть реформы.

**Беседовала Инна СТУДЗИНСКАЯ, "БМ"**




***Галерея "Alter Ego" представляет вниманию любителей прекрасного графические работы юной художницы Вероники Салиты. Выставка называется "Открывание люка" -- строчка Джима Морисона с последующей цитатой-эпиграфом:***

***"Мгновение внутренней свободы, Когда разум открыт для бесконечности мира и смущенная душа обречена ходить в поисках учителей и друзей".***

***Вероника входит в пятерку первых участников, подавших заявку на участие в "White art Festival" -- фестиваль молодых художников Беларуси.***

Сегодня наша республика находится в тяжелом экономическом положении и это трагично сказывается на судьбе ее молодых талантливых художников. Они разъединены, не имеют возможности и достаточных средств, чтобы представить общественности, критикам, искусствоведам, представителям арт-бизнеса свои работы. Не говоря уже о том, чтобы жить и работать на средства, которые приносит их творчество. Оптимистическим началом в решении этих проблем должен стать "Белый арт-фестиваль", на котором будут представлены работы учащихся и выпускников художественных учебных заведений Беларуси, а также талантливые самородки. Международное жюри выберет 1,5 тысячи лауреатов фестиваля, и их работы будут экспонироваться в самом большом выставочном центре столицы. Сами мэтры -- члены жюри -- будут приглашены на фестиваль со своими персональными выставками, которые одновременно пройдут в выставочных залах частных галерей г.Минска. Это также даст возможность молодым художникам не только увидеть работы именитых мастеров Европы, но и встретиться с ними на конференциях, семинарах, диспутах по проблемам современного искусства, куда будут приглашены искусствоведы и преподаватели высших художественных заведений республики. По итогам фестиваля будет выпущен цветной каталог лауреатов. На две недели город Минск станет местом общения не только художников и специалистов, но и всех, кого интересует современное изобразительное искусство.

Такому грандиозному начинанию, несмотря на спонсорство, необходима поддержка официальных структур Беларуси. На что очень надеется организационный комитет фестиваля.

Современное искусство -- искусство переломное, а не просто старый или новый период его истории. Непростительно наивным было бы видеть в нем либо только прямое и последовательное угасание прошлого, либо только линейное восходящее движение, все стилеобразующие начала которого уже сложились во всей несомненности.

С точки зрения классических эпох, создавших несомненные художественные ценности, которые гармонически соответствовали породившей их среде и эстетически полноценно решали свои идейно-художественные социальные задачи, современное искусство выглядит во многих отношениях неудовлетворительным. Искусство проникается неудовлетворенностью самим собой и окружающей жизнью; весьма сомнительно также, всегда ли удовлетворительным образом оно выражает свою неудовлетворенность действительностью.

В такой момент истории огромную роль играют социальные и национальные свойства искусства, обнимающие как профессиональное, так и народное творчество. В этих свойствах выражается уровень развития художественной жизни страны, значение, которое художественная деятельность обретает в духовной жизни, а также та международная роль, которую национальная школа должна играть в качестве носителя авторитетных движений в искусстве, опыта художественного обучения, центра, притягивающего к себе художников из других стран. Измерение уровня развития и значение национальной школы в мировом художественном процессе -- задача сложная и щепетильная, но крайне необходимая, как важный элемент национального самосознания. Здесь полезно прислушаться к тому, как заявит о себе в мировой художественной жизни сама национальная школа. Аудитория для таких заявлений существует. Это международные художественные выставки, фестивали с широким участием иностранных художников.

Надеемся, именно таким станет "Белый арт-фестиваль"

**Ирина СОЛОМАХИНА**

***Оргкомитет фестиваля расположен в помещении галереи "Альтер Эго" по адресу. Беларусь г.Минск ул. Захарова 2 .***

# Ці багатыя вы на дыяменты?

Скажыце, шаноўныя чытачы, хто апошнім часам бачыў дыямент? (Не, я яго зусім не губляў, і калі знойдзеце, то мне вяртаць не трэба). "А што ў такім разе, -- чую ў адказ, -- аўтар, відаць, смяецца, бо пра які дыямент зараз можа ісці гаворка, калі за сённяшнюю зарплату прыстойныя чаравікі не купіш, не кажучы ўжо пра цацкі мільянераў". А я шчыра прызнаюся, гэты дыямент бачыў. І нават прысутнічаў пры яго нараджэнні. Адзіная мая памылка ў тым, што гэтае слова не паставіў у двукоссі, бо "Дыямент" -- гэта назва маладзёжнага шматпрофільнага комплекса. Тыдзень таму адсвяткаваў ён свой дзень нараджэння.Бацькі немаўляткі --Фрунзенскі райвыканкам сталіцы, у прыватнасці, аддзел па рабоце з моладдзю.

Адразу патлумачу, чаму я аддаў некалькі гадзін свайго вольнага часу, ахвяраваўшы, можа, больш цікавымі справамі, ды яшчэ затрымліваю ўвагу чытачоў "БМ". Здаецца, нічога звышардынарнага не адбылося -- адкрыўся чарговы клуб. А вы ўспомніце, ці часта вам апошнім часам распавядалі пра такія падзеі? Хутчэй наадварот -- пра скаргі на адсутнасць сродкаў для свайго існавання ды пра закрыццё. Атрымліваецца, што ў Фрунзенскім не ўмеюць лічыць уласныя грошы і выкідваюць іх на вецер? А вось і памыляецеся. "Эканомія" на маладзёжных праектах сёння можа каштаваць шмат даражэй заўтра. Ды і што можа прынесці найбольшыя дывідэнды, чым укладанне грошай у сваю будучыню?

У "Дыяменце" разумеюць, што макрамэ ды гуртком мяккай цацкі да сябе моладзь не прывабіш. Таму і напрамкі іх дзейнасці што ні на ёсць сучасныя. Перш за ўсё -- гэта сацыяльна-псіхалагічная служба, і ад сябе заўважу -- бясплатная. Юрыст-псіхолаг пракансультуе вас па пытаннях сям'і і шлюбу, а калі, нажаль, наспела і такая неабходнасць, то і па пытаннях права. Не менш надзённае і балючае пытанне -- маладзёжнае беспрацоўе. Каб не сядзець на шыі ў бацькоў, маладыя людзі на "дыяментаўскіх" курсах прафарыентацыі могуць атрымаць прафесіі масажыста, повара-афіцыянта, некаторыя іншыя. Прычым, як запэўніла дырэктар "Дыямента" Святлана Антановіч, пералік гэтых прафесій з часам будзе папаўняцца. Ёсць пад дахам у "Дыямента" і цэнтр "Міласэрнасць", дзе вам пры патрэбе памераюць ціск, зробяць укол, дапамогуць таблеткай, альбо, што не меньш важна, добрым словам: штодзённа, з 9 да 12 тут працуе біяэнергатэрапеўт. Зноў заўважу, што гэтыя паслугі таксама бясплатныя. Але каб не даводзіць сябе да таго стану, што трэба звяртацца да ўрачоў, прыходзьце ў турыстычна-спартыўную секцыю "Дыямента". Вандроўка -- што можа быць весялей і карысней?

Афіцыйная дата нараджэння "Дыямента" -- 1 кастрычніка. Такім чынам, ён згодна ўсходняму гараскопу -- Шалі. Астролаг абяцае яму разважлівасць у дзеяннях, стабільнае развіццё, добры характар і пачуццё гумару. Усе гэтыя якасці будзеш стварацць ты, шаноўны чытач і будучы "дыяментавец". Месца тваёй тусоўкі -- Прытыцкага, 48, другі пад'езд.

**А. ХМЯЛЬНІЦКІ, спецыяльна для "БМ"**

# НАРАДЖЭННЕ ДЗЕЛЯ АДРАДЖЭННЯ?..

ШМАТ гучных і прыгожых слоў можна сказаць пра Ідэю Вялікага Нацыянальнага Адраджэння. І казалі! І спявалі, і нават крычалі. Але і да гэтай пары словы словамі і засталіся. Ну не адраджаемся мы ніяк, нягледзячы на ўсе прынятыя законы, увядзенне прэзідэнцтва і абвяшчэнне ў грамадскім транспарце назваў прыпынкаў на беларускай мове. І, здаецца, такое становішча задавальняе як аўтараў заклікаў да адраджэння, так і тых, каму гэтыя заклікі прызначаліся. І нічога, жывём, пакуль што.

Толькі барані вас Божа абвінаваціць аўтара гэтых радкоў у недастатковай нацыянальнай самасвядомасці і зняваге некаторых атрыбутаў нашай дзяржаўнасці. Што маем, то маем. А ў добра вядомым у апошні час горадзе Маладзечна абвешчана аб стварэнні Аб'яднання маладых патрыётаў Беларусі. Што ж, моладзь заўсёды была, так бы мовіць, рухавіком усяго новага і рэвалюцыйнага. Хаця патрыятызм -- слова ў нашым лексіконе не новае. А аб'яднанняў і партый нацыянальна-патрыятычнага кшталту хапіла б нават і на тры краіны. І навошта тады было ствараць яшчэ адно, няхай і з маладзёжным ухілам?

На гэтае і іншыя пытанні наконт сутнасці Аб'яднання і адказаў Сяргей Юркевіч, старшыня Аргкамітэту АМПБ.

Галоўная задача аб'яднання -- дапамагчы маладым людзям усвядоміць, што яны -- беларусы, што яны жывуць у краіне, якая будзе незалежнай. І, канешне, з самага пачатку мы ўлічвалі, што ёсць у нас і БНФ, і БСДГ, і БЗВ. Але наша моладзь хворая на нацыянальны нігілізм. І сярод падобных арганізацый не шмат тых, куды пойдуць маладыя людзі. А ў Маладзечна іх увогуле не чуваць.

Акрамя ідэі нацыянальнага адраджэння, АМПБ выступае супраць любой ідэалогіі, якая зневажае чалавечую асобу, учыняе над ёю гвалт. Выступае за свабоду сумлення і свабоду слова. Будзе займацца аховай навакольнага асяроддзя. Шмат задум наконт абароны палітычных, эканамічных, сацыяльных правоў моладзі. Напрыклад, пасля рэгістрацыі АМПБ мяркуецца стварэнне малога прадпрыемства, якое б дало крыніцу фінансавання аб'яднання і адначасова вырашыць праблему маладзёжнага беспрацоўя.

Дарэчы, прыняць удзел у працы АМПБ могуць не толькі яго сябры (грамадзяне ад 16 да 30 гадоў), а кожны, хто пажадае. Нацыянальнасць таксама значэння не мае: сярод 26 членаў Аргкамітэту людзі самых розных нацыянальнасцяў...

27 лістапада адбудзецца Устаноўчы Сход Аб'яднання маладых патрыётаў горада Маладзечна. Напэўна, шмат хто зацікавіцца гэтай падзеяй, і, магчыма, прыме ўдзел. У такім разе тэлефоны для сувязі: (Маладзечна) 5-34-68, 5-10-60, 5-49-90.

Ну а мы, са свайго боку, абяцаем пільную ўвагу за дзейнасцю нараджаючагася аб'яднання.

**Насцёна ПЯТРОЎСКАЯ, "БМ"**

# СТУДЭНТУ -- ЖЫЦЬ!

Як вядома, 14 кастрычніка ў Мінску прайшла студэнцкая акцыя пад дэвізам "Дзякуй Прэзідэнту за хлеб і малако", арганізаваная Свабодным прафсаюзам Белдзяржуніверсітэта. Гэтая акцыя мела два вынікі. Першы: Прэзідэнт на наступны дзень павысіў студэнтам стыпендыю. Другі: 7 лістапада ў сталічным Ленінскім судзе разглядалася "справа" двух студэнтаў, удзельнікаў акцыі --А.Міхалевіча і В.Цёмушава. Было вынесена "папярэджанне". Аказваецца, у нас і за падзяку судзяць.

А з павышэннем стыпендыі зусім дзіўна атрымліваецца. Згодна ўказу Прэзідэнта, яна павышаецца з 1 лістапада. Значыць, атрымаюць яе студэнты ў 20-х числах месяца. Пакуль жа яны жывуць, калі гэта можна назваць жыццём, на такую стыпендыю, што пры сённяшніх цэнах прыходзіцца выбіраць: хлеб ці малако?

Вы змаглі б доўга так працягнуць? Вось і студэнты не змаглі. А таму задумалі правесці жалобнае шэсце пад назвай: "Пахаванне студэнта, памершага галоднай смерцю і з'едзенага прусакамі". Хаваць -- дык дастойна: у труне і з аркестрам. Але даведаўшыся, колькі гэта будзе каштаваць (толькі аркестр запрасіў 50 даляраў), вырашылі: студэнту -- жыць, жыццё ў нас танней за смерць!

Так што, трымайся, студэнт! Рыхтуйся да далейшых змаганняў за такую стыпендыю, каб хапала не толькі на хлеб і малако, але і --барані Божа! -- на людскае пахаванне.



**С.ЛАБКО, спецыяльна для "БМ"**

# "ВЫВАДНІКІ"

*(Пакінуты вывадак разгубленай грамадскай зграі)*

***(Працяг)***

**"Не гатовыя да жыцця"... Неяк сумніцельна і нязвыкла гучаць гэтыя словы ў дачыненні да маленькіх злачынцаў, хаця дырэктар інтэрната характарызуе сваіх падапечных менавіта такім чынам.**



... Цікавы парадокс атрымліваецца, калі ўзгадаць, што атрыбутамі "падрыхтаванасці да жыцця" (а дакладней, да барацьбы за яго) даўно ўжо пачалі лічыцца зубы ды кіпці... У гэтым сэнсе за вышэйузгаданых хлопчыкаў увогуле няма чаго хваляваца: тут яны маглі б паслужыць выдатным узорам "дзяцей свайго часу"... і таго грамадства, якое іх выхавала. Але, відаць, гэтым іх "дарасласць" і абмяжоўваецца...

-- Дзеці, якія трапляюць у нашу школу, не проста не любяць працаваць. Складваецца ўражанне, што яны проста баяцца гэтага, што прыбіранне ўласнага ложку альбо мыццё падлогі -- гэта неперааддольны бар"ер, да якога страшна падступіцца.

Спрабуючы сваімі сіламі неяк з гэтым змагацца, выхавацелі і выкладчыкі распрацавалі спецыяльны курс "сацыяльнай рэабілітацыі", у праграме якога паведамляюць падлеткам элементарныя звесткі пра культуру паводзінаў, сям"ю, здароўе... І пра тое, што такое дзяржаўны закон і чаму не варта парушаць яго...

Як не дзіўна, многія хлопчыкі, ужо "выведзеныя" з інтэрната, потым часта вяртаюцца, каб пабачыць сваіх выхавацеляў, паскардзіцца, параіцца... Дарэчы, падчас прыватнай размовы з сённяшнімі "вязнямі" я не пачула ад іх ніводнага нядобрага слова ў адрас "наглядчыкаў", хаця нікога са старэйшых у пакоі не было і пачуць нас ніхто не мог.

Мне гэта нагадала штосьці накшталт "баявога сяброўства", калі агульную мову знаходзяць супрацьлеглыя і першапачаткова варожыя бакі, пастаўленыя ў агульныя экстрэмальныя ўмовы...

Менш за ўсё хацелася б, канешне, ствараць нейкі рамантычны арэол над узаемаадносінамі гэтых людзей, якія нельга, відаць, назваць проста адносінамі дарослых і дзяцей... Безумоўна, многія з падлеткаў не паддаюцца ніякаму кантролю. Што ж датычыць выхавацеляў -- было б проста смешна лічыць, што ўсе яны прыйшлі сюды, ахінутыя васокароднай ідэяй выратавання душ няшчасных дзяцей. На пытанне "чаму?" большасць з іх лічыць за лепшае спасылацца на свой лёс... Канешне, ёсць адзінкі, якія наўмысна прыходзяць сюды: напрыклад, тыя, хто яшчэ з інстытута "хварэў" ідэяй на практыцы прымяніць свае веды па выхаванні "цяжкіх" падлеткаў. У большасці ж проста не было іншага выйсця з-за недахопу працоўных месцаў у звычайных агульнаадукацыйных школах.

-- Мне, як дырэктару школы, гэта вельмі моцна звязвае рукі. У нас няма магчымасці запрасіць да сябе лепшых педагогаў, якія б разумелі псіхалогію нашых дзяцей, умелі б працаваць з імі. А ў нашай школе мы не можам прапанаваць ім ні ільгот, ні прыстойнай зарплаты.

Большасць выхавацеляў (у асноўным, "выпадковых"), звальняюцца праз некалькі месяцаў. Затое той, хто вытрымлівае, застаецца надоўга. Некаторыя працуюць тут ужо па 20 гадоў. Камусьці цяжка развітацца са сваімі "цяжкімі" падапечнымі, перакрэсліўшы тыя зародкі даверу і прыхільнасці, якія толькі-толькі пачалі ў іх праяўляцца. А камусьці проста робіцца шкада гэтых маленькіх і, па сутнасці, несвядомых яшчэ злачынцаў, дапамагаць якім, як высвятляецца, больш няма каму.

-- Сорамна казаць, але за 20 гадоў існавання нашай школы ні адзін вучоны не пераступаў яе парога. Як пасля гэтага можна казаць, што мы змагаемся са злачыннасцю? Нам, педагогам-практыкам, зараз катастрафічна не хапае тэарытычнай базы, распрацаванай сапраўднымі спецыялістамі.

Да таго ж, адной такой школы на ўсю рэспубліку, канешне, мала. Па-першае, нельга разам трымаць 11-гадовых кішэнных злодзеяў і 15-гадовых забойцаў, таму што апошнія, натуральна, вельмі адмоўна ўплываюць на маленькіх.

Па-другое, калі б у кожнай вобласці была свая школа-інтэрнат альбо, як зараз іх называюць, "цэнтр сацыяльнай адаптацыі і рэабілітацыі", то з"явілася б магчымасць кантраляваць тых дзяцей, якія яшчэ не здзейснілі злачынства, але ўжо схільныя да яго. Іншы раз у мяне душа баліць, таму што атрымліваецца, быццам бы мы чакаем, пакуль дзіця зробіцца злачынцам, каб адправіць яго ў спецшколу.

Амаль ні ў каго з нашых дзяцей не было нармальнага выхавання, нармальных сямейных адносінаў. І для таго, каб гаварыць пра нейкае паспяховае перавыхаванне, трэба перш за ўсё паклапаціцца пра аднаўленне іх хворай нервовай сістэмы, забяспечыць вартаснае медыцынскае абслугоўванне...

На жаль, тых, ад каго залежыць вырашэнне большасці з гэтых пытанняў, не цікавяць ні самі дзеці, ні іх выхавацелі. Яны ведаюць толькі тое, што ўсе мы ведаем па старых савецкіх дэтэктывах: злачынства павінна быць пакаранае. І яно паспяхова караецца: спачатку ў такіх вот школах, потым -- у турмах... І невядома, колькі часу яшчэ спатрэбіцца, каб задаць сабе пытанне, а ці павінна ўлада праяўляцца толькі ў пакаранні і ці не злачыннай з"яўляецца тая дзяржава, якая не пакідае ніводнага шансу на выратаванне нават дзецям?..

***Вольга БАБАК, "БМ"***

# Две жизни "тихого троечника"

*Скажу сразу, что особой симпатии Андрей, назовем его хотя бы Баранкин, у меня не вызвал. Таких, как Андрей, называют "весь в себе". В школе это -- тихий троечник, стеснительно замирающий перед доской с несложной математической формулой, постоянный повод для "подколок" со стороны девчонок и человек, у которого во всей школе не найдется маломальски близкого друга. Казалось бы, и что с того -- ну подумаешь, некоммуникабельный мальчик, да и не всем же с неба звезды хватать. Однако одно дело в школе. Придя домой, скинув серенькую школьную форму и переодевшись в кое-что "поприкидистее", он начинает новую жизнь -- жизнь бизнесмена, полную приключений и опасности. Это уже далеко не скромный школьник, а крутой парень, которому подвластно все, и который в свои семнадцать уже проворачивает миллионные сделки.*

*Наш разговор состоялся в шикарном офисе солидной фирмы. Бесконечно звонил телефон, приходили какие-то люди, а он, назвавшись для солидности Андреем Евгеньевичем, ломко басил в телефонную трубку.*

**-- Андрей, когда ты совершил первую в своей жизни сделку?**

-- В девять лет, я это отлично помню. Была у меня старенькая, но приличная игрушечная машинка. Я ее обменял на другую, только новую, и продал одному мальчику во дворе. За целых полтора рубля продал.

**-- И на все деньги купил мороженого?**

-- Нет, на эти деньги я купил марки, а потом тоже их продал, но уже за три рубля. И тогда уже купил себе мороженое. Одно.

**-- Так скажем, расширил первоначальный капитал.**

-- Об этом я тогда еще мало думал, просто видел, что из малого можно получить большее, если, конечно, шевелить мозгами.

**-- А теперь ты тоже "шевелишь мозгами"?**

-- По крайней мере стараюсь. Конечно, объемы уже не те, что раньше. Но в месяц несколько "лимончиков" имею.

**-- Зачем тебе столько денег, спрашивать не буду -- они всегда пигодятся. Интересно, что ты с ними делаешь?**

-- Во-первых, часть трачу на себя. Вот курточку купил, ботинки. Остальное откладываю, естественно, в долларах. Это мой капитал, с которым я могу работать. Ну и всякие другие потребности. Хотя лично мне мало что нужно. Я не пью, не курю, девушек в рестораны не вожу...

**-- А родителям что-то перепадает? И вообще, как они относятся к твоим занятиям?**

-- Если им это и не очень-то нравится -- боятся, что во что-нибудь влипну, то они все равно молчат. Я ведь теперь главный добытчик в семье. Да и что они купят на свои инженерские зарплаты! Немного денег даю на питание, маме плачу за то, что мне она готовит отдельно -- я люблю итальянскую кухню. Младшему брату тоже немало перепадает, но за это он застилает мою постель, ухаживает за моей собакой и вообще выполняет разные мелкие и не очень поручения. "Предки" теперь "упакованы" на все сто. Я не спрашиваю, что им нужно, просто покупаю классные вещи.

**-- А наказать за что-нибудь они тебя могут?**

-- А за что меня наказывать? И кто осмелится наказать главу семьи? Я их, конечно, очень люблю, но даже как-то и в голову не приходит, что кто-то будет мне указывать. Иногда, правда, мама может поворчать и, между прочим, порядком меня достала. Все это я списываю на издержки возраста.

**-- А кому еще ты платишь в этой жизни?**

-- Учителям. Вы думаете после такой работы я могу всерьез учить литературу? Еще больше унижает, когда тебя заставляют убирать класс, плестись со всеми на какое-нибудь общественное мероприятие. Мое время стоит дорого, и я не намерен его разбазаривать. Вот и плачу тем, кто, точно чувствую, возьмет. А что, я понимаю, что учителям тоже жить надо, тем более при такой нищенской зарплате.

**-- И ты думаешь, что в школе об этом никто не догадывается?**

-- В школе я ничем не примечательный ученик одиннадцатого класса. Ни во что не вмешиваюсь, хожу на занятия в затасканной болоньевой курточке. Они меня, наверное, и за человека не считают. Думают там, серенькая личность, для которой предел мечтаний какой-нибудь занюханный автотракторный факультет. В общем, одноклеточный я, неперспективный.

**-- А что, предел мечтаний -- это своя фирма и слава Мавроди?**

-- Нет. Такой славы мне не надо. Я люблю оставаться в тени, хотя и Мавроди тоже был в тени, пока не засветился. Свою фирму я уже давно мог бы открыть. Но сначала надо вырваться из этой школы, поступить в ВУЗ. Знаний у меня и так хватает, но корка всегда пригодится. Года через три можно и о фирме подумать. Вот будет смеху, когда мои одноклассники придут ко мне наниматься на работу... А что, возьму, но жизнь у них вряд ли тогда будет спокойной -- я сам работать умею и других заставляю.

**-- А что ты еще любишь, кроме денег?**

-- Люблю, когда меня никто не трогает. Власть люблю, а ее-то и дают деньги. Люблю "крутые" боевики, плохую погоду. Себя люблю, а чего бы не любить? Много чего люблю.

**-- А как же девушки, молчание по телефону, вздохи при луне...**

-- Какие еще девушки? Связываться с малолетками нет смысла, жениться мне еще рано. А стройные ножки и блестящие глазки --этого мало, чтобы взять меня в плен. А если честно, то есть у меня одна женщина лет тридцати. Ей я тоже даю деньги, делаю подарки. И будьте уверены, если что -- родителям жаловаться она не побежит.

**-- Извини, но я все время пытаюсь понять, откуда в тебе такой рационализм?**

-- Да уж не от родителей. Просто жизнь сегодня такая --жестокая. И если хочешь быть в ней хозяином, а не жалким слугой, надо постараться быть жестким. Может, где-то внутри я совсем иной. Это уже от родителей. Но если это иногда и прорывается, то ругаю себя.

**-- И все-таки, ты целыми днями думаешь о том, как заработать побольше денег. В то время как твои ровесники весело проводят время в компаниях, влюбляются, ходят на дискотеки, тебе не страшно, что потом, лет через двадцать, ты будешь очень жалеть о том, чего недополучил. Но уже будет поздно...**

-- Все они -- кандидаты в очередь на биржу труда. Поймите, я получаю несоизмеримо больше. И дело не только в деньгах. Это риск, это игра, это настоящая жизнь. Это моя жизнь. И другой мне не надо.

Уходя, я еще раз оглянулась на этого ясноглазого невысокого паренька, почти мальчика. И почему-то так и захотелось сказать: "Баранкин, ну будь ты человеком!". А может, я чего-то не понимаю...

***Елена ШУМАРОВА***

**● Милицейская курилка "БМ"**

# ШИБАЛИЗМЫ

*Я уже думал, что канули в Лету времена "самиздата". Все же какая-никакая свобода слова и печати у нас в республике появилась. Ан-нет: попалась мне намедни на глаза сработанная на ксероксе книжица с грифом "Для внеслужебного пользования". Именно этим веселеньким заявленьицем и привлекла она мое внимание. Да еще эпиграфом-цитатой великого Дюма: "Ум человеческий имеет свои пределы, тогда как глупость человеческая беспредельна". Что это? Новоявленный Козьма Прутков? Как обнаружилось по прочтении --именно так. В роли братьев Жемчужниковых на сей раз дебютировали сотрудники, как говорилось в брежневские времена, энского УВД. По крупицам собирали они на офицерских совещаниях и планерках перлы своего горячо любимого начальника -- человека с двухпросветными погонами, и, видать, беспросветного дурака. Как указано на обложке, "выражения с использованием нецензурных слов в сборник не вошли". А посему мы решили познакомить с "Шибализмами" (так называется сборник цитат офицера А.Г.Ш— — ко) и наших читателей.*

*Анонимных авторов просим простить нас за использование их труда без спросу и прийти к нам в редакцию за вполне заслуженным гонораром.*

***Н.КОПЧЕНОВ, зам. гл. редактора "БМ"***

**Итак, Анатолию Г. -- милиционеру и гражданину, посвящается:**

● Думайте лицом и не ходите по волосе!

● Я на 3 минуты лишаю Вас премиальных!

● Вот мыши у них разводятся! Это только у плохого сотрудника разводятся эти насекомые!

● Они уходят от ответственности, как рыбы по льду!

● У нас в УВД все голые как соколы!

● Напишите объяснение на имя МЕНЯ.

● Время? -- Девять и одна десятая.

● Если хочешь съесть человека, то ешь его как положено!

● Не зная броду, не лезь в воду, а то зубы повыбиваешь!

● У самого морда в такой грязи, а носит большие погоны!

● Пролом мозгов в черепно-мозговой коробке.

● Я вам смотреть в зубы не буду!

● Товарищ майор, я думал, что Вы врун, а Вы еще и лгун!

● Вы как Змей Горыныч крутитесь на сковородке и выскальзываете!

● Если вы не думаете головой, тогда думайте другим местом.

● Я этим кусакам покажу! Им лишь бы из-под полы укусить кого-либо!

● Посмотрите у себя в глазу бревно, а то сами страшнее обезьяны!

● Своя шкура ближе к телу!

● У меня волосы дубом становятся!

● График есть -- и никаких менян ий!

● Отныне, с сегодняшнего утра, все трупы должны быть у меня на столе!

● Вы должны быть закапером соцсоревнования.

● Колюще-режущие вещества находят под скамейками!

● Объявляю вам неполное, неслужебное соответствие!

● Вы катаетесь здесь, как моржи в масле!

● Они идут на компромисс, чтобы нас скомпрометировать!

● Вот вы сейчас матом ругаетесь, а завтра этими руками будете хлеб есть!

● Товарищ капитан, идите и дорабатывайте материал, а что доробатывать, я вам не скажу!

● Если вы родились красными, то будьте ими, пока живете, и не становитесь то белыми, то зелеными!

● Товарищ майор, вы у меня получите, не при женщинах будет сказано -- нагоняй! Извините, Лина Ивановна.

● Если у вас мозгов не хватает или головка слабенькая, тогда покупайте записные книжки и записывайте... как это делаю я!

● Задние ряды, не разговаривать впустую!

# ПраРОК

Андрэй ІВАНОЎ:

# "ІДЭЯ "ЗАРЦІПО" ЖЫВЕ Й, СПАДЗЯЮСЯ, ПЕРАМОЖА!"

***Гурт "ЗАРЦІПО", па нашых беларускіх раскладах, немалады. Таму мае даўнюю й слаўную гісторыю. У далёкім 1982 годзе, калі цяперашнія маладыя аматары рок-музыкі яшчэ толькі вучыліся хадзіць, свой першы канцэрт даў рок-гурт "БЛІЗЬНЯТЫ". Яго стварылі маладыя хлопцы, студэнты розных менскіх інстытутаў ды ўнівэрсытэтаў. Запомніце гэтыя гістарычныя імёны:***

***Аляксей Генералаў (бас), Сяргей Ахрамовіч (бубны), Андрэй Талкачоў (вакал, клявішы), Андрэй Іваноў (гітара).***

***"БЛІЗЬНЯТЫ" гралі ў стылі, на мой погляд, блізкім да арт-року. Яны нават часам гучалі па радыё й паказваліся па тэлевізіі (для тых часоў -- неверагодная раскрутка). Але час -- гэта няўмольная рэч. Як гавораць, усё мае ўласьцівасьць зьмяняцца, таму зьмяніліся й "БЛІЗЬНЯТЫ". З гурту сыйшоў бубнач, вакаліст, ён жа клявішнік (глядзі вышэй). Потым забралі ў войска басыста. Натуральна, іхнія мейсцы не засталіся пустыя. Бо, як я казаў вышэй, усё зьмяняецца. І вось зьявіўся гурт, дзе акрамя Андрэя Іванова (гітара) не засталося анікога з былых "БЛІЗЬНЯТАў". Фактычна, гэта быў зусім іншы гурт. Граў ён ужо ня арт, а, хутчэй, пост-панк з вострымі, іранічнымі, дасьціпнымі, нават, саркастычнымі тэкстамі. На сцэне гэта было гэткае адмыслова "саўковае" шоў (дагэтуль на Беларусі нічога такога не заўважалася). І вось гэтая новая каманда, натуральна, узяла новы назоў. Гучаў ён гэтак: "ЗАРЦІПО". І новасьпечанымі "зарціпанамі" зрабіліся: Дзіма Платко (гукарэжысэр, аўтар 70 адсоткаў тэкстаў ды музыкі), Сяргей Старыковіч (бубны), Андрэй Саўчанка (бас), Уладзімір Вуколаў (гітара), Алесь Камоцкі (сакс), Валера Шашок (вакал) і, безумоўна, Андрэй Іваноў (безумоўна, гітара). Гэты гурт меў пэўны посьпех, але, як вы ведаеце, усё зьмяняецца, і праз некаторы час склад "ЗАРЦІПО" ізноў зьмяніўся, але няхай пра ўсё гэта распавядзе неаднаразова вышэйпамянёны Андрэй Іваноў (натуральна, гітара).***




***-- Чаму вы назвалі каманду "ЗАРЦІПО"?***

-- Наш вакаліст Валера Шашок прынес гэты назоў абсалютна "ад булды". Чамусьці ўсім музыкам гэтае слова спадабалася. Да таго ж яно фанэтычна падыходзіла да стылю каманды.

***-- Дзе выступала тагачаснае "ЗАРЦІПО"?***

-- У 1988 годзе мы выступалі ў Гародні на "Рок-кроку". Напэўна, гэта быў наш першы сур'ёзны выступ на шырокай публіцы. Рэзананс ад гэтага канцэрту быў даволі вялікі. Што й зразумела -- тады мала хто рабіў шоў са сваёй праграмы. А мы выглядалі на сцэне весела, сацыяльна востра. Ды й народ проста ссумаваўся па чамусьці шчыраму... Далей мы выступілі на фэстывалі ў Магілеве. Там таксама быў поўны посьпех. Пасьля Магілеву, літаральна праз тыдзень, паехалі ў Вільню на вельмі буйны й прэстыжны фэстываль "Рок-форум". Усе гурты, якія выступалі на гэтым фэстывалі, атрымалі потым усесаюзную раскрутку. Менавіта пасьля "Рок-форуму".

***-- А хто там выступаў?***

-- "Ва-банк", "ВВ", "Чайф"... Усе яны раскруціліся. Акрамя нас. Мы на фэсьце, фактычна, праваліліся. Разгубіліся на гэтай вялікай сцэне, перахваляваліся... Карацей, адчувалі сябе няўпэўнена. Напэўна, гэта перадалося публіцы. І вось менавіта гэты няўдалы канцэрт абламаў каманду. Музыкі страцілі веру ў тое, што яны робяць, у посьпех гэтае безнадзейнае справы. "Усё адно мы ня зробімся такімі папулярнымі, як "Аліса", -- казалі яны мне. У кожнага была асноўная праца, шмат у каго -- сем'і, дзеці. Хаця па інэрцыі мы яшчэ далі некалькі даволі пасьпяховых канцэртаў, рэпэтыцыі праходзілі неяк квола, і я злавіў сябе на тым, што мне самому ня хочацца гэтым займацца. Наш гукарэжысэр, аўтар ледзь не 70 адсоткаў матар'ялу гэтае праграмы, які даўно ўжо вагаўся паміж ад'ездам у сонечную Амэрыку і працаю ў "ЗАРЦІПО", канчаткова выбраў першае. Зь ягоным ад'ездам праца над новымі песьнямі зусім спынілася. Я рабіў спробы зьбіраць стары склад, але беспасьпяхова. Бяз рок-н-ролу я свайго жыцьця не ўяўляў і таму знайшоў цікавых маладых музыкаў з каманды "ВЕЦЕР", якія згадзіліся працаваць разам са мною.

**-- Дык ты, як я разумею, застаўся адзін з былога "ЗАРЦІПО", набраў новых музыкаў і захаваў за сабою стары назоў?**

-- Я лічу -- гэта нармальна. Мне здаецца, ідэя гурту засталася тая ж -- экспэрымэнт, пошук. Тым болей, што з старога складу "ЗАРЦІПО" ўсе музыкі адыйшлі ад рок-музыкі і не зьбіраліся рабіць сваіх праэктаў.

***-- А ты свой праэкт зрабіў?***

-- У мяне ніколі не было чыста "свайго" праэкту. У "БЛІЗЬНЯТАХ" разам са мною, так бы мовіць, гэнэратарам ідэяў быў Андрэй Талкачоў, у першым "ЗАРЦІПО" -- Дзіма Платко. А цяпер, да мае вялікае радасьці, носьбітамі йдэі зьяўляюцца ўсе музыкі гурту.

***-- Дык што ж гэта за йдэя такая?***

-- Гэтую йдэю словамі ня выразіш. Яе трэба адчуваць.

***-- Тое, што вы інструмэнтальны гурт -- гэта прынцыпова?***

-- Не. Проста пакуль што мы яшчэ не знайшлі вакаліста, які б падзяляў нашую йдэю. Для нас няйстотна -- умее ён сьпяваць ці не, на якой мове ён будзе сьпяваць. Хоць па-кітайску. Ён мусіць несьці йдэю, а на якой мове -- гэта ягоная справа, ягонае права.

***-- Ідэя -- гэта добра, а што вы ясьце, дзе бераце грошы?***

-- Мы, апроч музыкі, нічым прафэсыйна не займаемся. Спачатку нашыя сем'і ледзьве не выганялі нас з хатаў. А потым мы пахітрэлі й пачалі граць у Нямеччыне па клюбах. Натуральна, грошай няшмат, але па 25 баксаў на месяц атрымлівалася. Мы выступалі ў Бэрліне, Гамбургу й яшчэ шмат дзе. У Гамбургу, нават, гралі ў вельмі прэстыжным клюбе, у якім выступаюць гэткія асобы, як Стынг, Ван Хален... Камэнтары залішнія.

***-- Глядзі ты! Ну й як, ваш выступ атрымаў нейкі рэзананс?***

-- Для нас -- так. А ў сьвеце -- можа, і атрымаў, але мы пакуль пра гэта нічога ня ведаем.

***-- Ну, добра, рэзананс рэзанансам, але, відаць, грошай вы за гэты выступ атрымалі незьлічоную кольказьць?***

-- За канцэрт мы атрымлівалі нармалёва. Па сто маркаў на музыку. Гэтак па клюбах нармальным выканаўцам плоцяць паўсюдна, нават у Амэрыцы. Але, дзеля ўтрыманьня нашых сем'яў, мы эканомілі на ўсім. Жылі ў сяброў. Дарэчы, вельмі класныя хлопцы, шмат у чым нам дапамагалі. Тое-сёе з прадуктаў везьлі з сабою. Танныя харчы куплялі ў нямецкіх крамах. Па месяцох сядзелі на суцэльных макаронах. Увогуле, макароны -- нашая ўлюбёная страва. Вось коштам такіх "гэраічных" намаганьняў удавалася прыносіць грошы ў сям'ю. Хаця б гэтыя 25 даляраў штомесяц. Але гэта да апошняга часу. З прыходам нашага Прэзыдэнта сытуацыя прынцыпова зьмянілася. Кошты ўзрасьлі, гэтых грошай ні на што не хапае. А нашыя фінансавыя магчымасьці не дазваляюць нам нават даехаць да той Нямеччыны. Таму наш чарговы нямецкі тур цяпер пад вялікім пытаньнем. Але я не хацеў бы гаварыць пра Прэзыдэнта, пра эканоміку. Мяне больш цікавіць музыка, творчасьць. Мы можам галадаць, можам з-за адсутнасьці сродкаў, нават, разваліцца, пайсьці працаваць "па спэцыяльнасьці". Гурту ня будзе. Але вобраз "ЗАРЦІПО", ягоная йдэя не памруць.

***-- Якая самаахвярнасьць! Якая ўпэўненасьць! Адкуль?! Навошта?!***

-- Я проста адчуваю, што мне трэба гэтым займацца, што гэта -- як ні банальна! -- маё прызваньне. Таму я буду гэта рабіць у любым выпадку і даю вам "честное пионерское", што гэта будзе цікава, добра й часам нечакана.

***Кастусь ЗЬМІЦЯРЭЦ, адмыслова для "БМ"***

***Фота Андрэя ТОКАРА, малюнак невядомага аўтара 19 ст***



# Яшчэ адно светаўспрыманне Уладзіміра Шапялевіча

**Арт-панарама**

Сённяшняе наша мастацтва магчыма падзяліць на тры плыні: артадаксальны, традыцыйны рэалізм на адным полюсе, модны, у асноўным кампіляцыйны авангард на другім, і паміж імі --мастацтва, якое абапіраеца на сінтэз традыцыі і сучаснай вобразна-пластычнай мовы. Да апошняй належыць мастак Уладзімір Шапялевіч.

Станаўленне прыйшлося на перабудову, а гэта значыць на перыяд інтэнсіўных пошукаў новай вобразнай структуры беларускага жывапісу. Таму невыпадкова, што творчасць мастака адыгрывае сур"ёзную ролю ў эвалюцыі сучаснага беларускага мастацтва. Ягоныя творы моваю пластычных вобразаў выяўляюць тое, што ў разуменні чалавека з"яўляецца самым істотным -- глыбокую сувязь з космасам, зямлёю і спрадвечным рытмам прыроды.

Прырода жывіць мастака, але не захлёствае, ён пільна адбірае толькі тое, што блізка яго стылёвым распрацоўкам, пошукам новых граняў выказвання сваіх мастацкіх магчымасцяў.

Пошукі сваёй пластычнай сістэмы для Шапялевіча -- гэта вынік эксперыментаў, які дае шчасце вольна працаваць з матэрыяламі. У абыходжанні з натурай ён пластычна катэгарычны, нецярплівы да выпадковага, заўсёды шукае самую сутнасць, формулу часу, пранікае праз сённяшняе, каб спасцігнуць агульнае.

Самае характэрнае ў яго -- захапленне характвом вялікага навакольнага свету, яму ўласцівы дынамічны, нястрыманы рух пэндзаля, асаблівая звонкасць і вастрыня жывапісу, простыя матывы, глыбіня і шчырасць у праяўленні пачуццяў, а адсюль і яркая індывідуальнасць.

У яго пластычных пошуках знаходзіць своеасаблівы адбітак пачуццё сучаснасці -- дынаміка, складанасць, зменлівасць, абагульненне шматаблічнасці жыцця. Назапашваючы прафесійнае майстэрства, паглыбляючы і пашыраючы ідэйна-мастацкія задачы, мастак у лепшых сваіх творах падышоў да вырашэння вялікіх стылёвых праблем станкавага жывапісу, тэндэнцый яго развіцця апошніх гадоў.

Гледзячы на яго творы, людзі становяцца багацей яшчэ на адно светаўспрыманне.

У няспынным творчым абнаўленні залог сучаснасці Уладзіміра Шапялевіча.

*Алесь ТАРАНОВІЧ, мастацтвазнаўца*

**Заўчасная смерць Эдуарда Пятровіча ВАРФАЛАМЕЕВА, калегі-радыё-журналіста, болем і жалобай адазвалася ў "Беларускай маладзёжнай". Нашыя спачуванні родным і блізкім. Наша развітальнае: бывай і прабач...**

# ЖЫЦЦЁ Ў СТЫЛІ "БМ"

## Вывучаем родную гісторыю

### Як узніклі нашы дзяржаўныя сімвалы

Знакі-сімвалы ўжываліся яшчэ ў старажытнасці. У славянскіх плямёнаў такімі знакамі былі кавалкі пераважна чырвонай тканіны на дрэўку -- сцягі або харугвы. На іх малявалі асабістыя княжыя знакі.

У першай палове 13-га стагоддзя на заходняй частцы Полаччыны пачало фарміравацца Вялікае Княства Літоўскае. Князі новае дзяржавы па-ранейшаму карысталіся чырвонымі сцягамі. А пачынаючы з Гедыміна, іх дынастыя мела за герб відазменены "Трызуб" полацкіх Рогвалодавічаў, які пазней атрымаў найменне "Калоны" ("Калюмны").

Дзяржаўным жа (уладарным) гербам Вялікага Княства з другой паловы 13-га стагоддзя сталася выява збройнага рыцара на кані --"Пагоня". Лічыцца, што напачатку яна была гербам Полацка, а таксама Новагародка.

З пачатку 15-га стагоддзя на шчыце "Пагоні" ужо сустракаецца шасцiканцовы крыж з карацейшай верхняй перакладзінай. Першыя ж звесткі пра сцягі з выявамі "Пагоні" паходзяць з часу Грунвальдскай бітвы.

З цягам часу ў Еўропе распаўсюдзілася традыцыя адзначаць на сцягу герб у выглядзе ўмоўнай каляровай паласы. Згодна з законамі геральдыкі, верхнюю частку сцяга павінен быў займаць колер гербовай выявы, а ніжэй змяшчаўся колер самога сцяга . Гэтак не пазней за пачатак 16-га стагоддзя і ўзнік наш бел-чырвона-белы сцяг, дзе верхняя паласа -- колер "Пагоні", сярэдняя -- прадвечны колер самога сцяга, а ніжняя -- колер рыцарскага шчыта на "Пагоні".

У 1918 годзе, з адраджэннем нашае дзяржаўнасці, герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг становяцца дзяржаўнымі сімваламі Беларускай Народнай Рэспублікі.

## Складаем праграму на дзень

1. З сённяшняга дня я стану шчаслівым. Гэта трэба разумець у тым сэнсе, які Аўраам Лінкольн укладаў у словы: "Для большасці людзей магчымасць быць шчаслівымі роўная іх рашучасці стаць шчаслівымі". Шчасце знутры нас, а не вакол.

2. З сённяшняга дня я буду імкнуцца ўзгадняць свае жаданні з тым, што ёсць, а не наадварот. Свой лёс, сваю працу, сваіх блізкіх я буду прымаць такімі, якія яны ёсць, і буду прыстасоўвацца да іх.

3. З сённяшняга дня я пачынаю клапаціцца пра свой арганізм. Я буду яго трэніраваць, я буду ўважлівым да яго стану, каб ператварыць яго ў дакладны механізм для выканання маёй волі.

4. З сённяшняга дня я пачынаю развіваць і ўмацоўваць свой інтэлект. Я не дазволю больш ляноты свайму розуму. Пачну вывучаць што-небудзь карыснае. Буду чытаць тое, што патрабуе намаганняў думкі і засяроджанасці.

5. З сённяшняга дня я пачынаю трэніраваць свой характар, выкарыстоўваючы для гэтага наступныя два прыёмы. Па-першае, я зраблю для каго-небудзь нейкую добрую справу, але так, каб ён не ведаў, хто гэта зрабіў. Па-другое, я прымушу сябе выканаць дзве якіх-небудзь справы, якія мне не хочацца рабіць.

6. З сённяшняга дня я буду ветлівы і добразычлівы з людзьмі. Паспрабую выглядаць найлепшым чынам, буду старанна апранацца, не павышаць голасу, нікога не буду асуджаць, не буду шукаць памылак у паводзінах іншых і не буду імкнуцца нікога выпраўляць.

7. З сённяшняга дня я буду жыць толькі клопатамі бягучага дня, не спрабуючы вырашыць усе жыццёвыя праблемы адразу. На дванаццаць гадзін у мяне хопіць цярпення, каб выканаць абавязкі, якія б сталі для мяне невыноснымі, калі б я думаў, што павінен рабіць гэта ўсё жыццё.

8. З сённяшняга дня я пачынаю жыць па плану. Я складаю пагадзінны графік сваіх заняткаў. Выконваць яго са шчыльнай дакладнасцю зусім не абавязкова, але мець яго неабходна. Дзякуючы яму я пазбаўлюся ад дзвюх невыносных рэчаў: паспешлівасці і нерашучасці.

9. З сённяшняга дня я буду выдзяляць паўгадзіны часу для поўнага адасаблення і адпачынку. У гэты час я паспрабую засяродзіцца на думках пра Бога. Я буду спрабаваць убачыць сваё жыццё, як бы Яго вачыма, каб набыць некаторую перспектыву.

10. З сённяшняга дня я не буду паддавацца ніякім страхам і перш за ўсё не буду баяцца быць шчаслівым, атрымліваць асалоду ад прыгажосці, не буду баяцца любіць і верыць, што тыя, каго я люблю, любяць мяне.

Калі вы хочаце выпрацаваць такі лад думак, які прынясе вам мір і шчасце, запомніце галоўнае правіла: думайце і дзейнічайце жыццярадасна, і вы адчуеце сябе жыццярадасным чалавекам.



## Выхоўваем дзяцей па-царску

Кацярына Другая была не толькі вялікай імператрыцай, але і добрай бабуляй, актыўна ўдзельнічала ў выхаванні ўнукаў.

Зыходзячы з прынцыпаў разумнасці і натуральнасці, свабоды асобы і нармальнага здаровага быту, а таксама з даследванняў аўтарытэтных педагогаў-філосафаў, руская царыца напісала праграму выхавання ўласных унукаў -- "Азбуку". Вось некаторыя парады вялікай бабулі.

### Аб захаванні здароўя

Адзенне павінна быць як мага больш простым і лёгкім. Ежа простай. Захочуць есці паміж абедам і вячэрай -- даць ім кавалак хлеба. Каб не елі, калі сытыя, і не пілі, калі няма смагі. Спаць не мякка, а на цюфяках пад лёгкай коўдрай, летам пад паркалевай, падшытай прасцінёй, зімой -- падшыванай. Класціся і ўставаць рана.

### Аб хваробах

Пазбягаць ужывання лекаў і звяртацца за дапамогай да ўрача толькі ў выпадку сапраўднай хваробы. Калі дзеці хворыя, прывучаць іх пераадольваць пакуты цярпеннем, сном і ўстрыманнем. Кожнаму чалавеку прыйдзецца пераносіць голад, смагу, стомленасць, боль ад хвароб і ран, таму ён павінен пераносіць усё цярпліва. Дапамога ў такіх выпадках неабходна, але рабіць гэта трэба стрымана, без паспешлівасці.

### Аднасна настрою на дабрыню

Добрыя ўчынкі павінны быць заўсёды заўважаны і заахвочаны. Імкніцеся заўсёды ўсяляць у дзяцей чалавекалюбства і спачуванне да ўсяго жывога. Дзеці плачуць або ад упартасці, або ад хваробы, але трэба забараняць усялякія слёзы. Хто не слухаецца, той хворы, і трэба ставіцца да яго, як да хворага.

Хто з малых гадоў не прывучаны слухацца загадаў і парад бацькоў і выхавальнікаў, той, стаўшы дарослым, не ў стане будзе слухаць парады здаровага сэнсу і справядлівасці. Чаго дзеці патрабавальным тонам прасіць будуць, таго не даваць.

### Галоўнае настаўленне дзецям

Трэба любіць бліжніх, быць добрымі і чыстасярдэчнымі, пазбягаць гнеўнай гарачнасці, баязлівасці і пустой пагарды. Пашана павінна быць заснавана на тым, каб не мець дрэнных думак ні пра сябе, ні пра бліжніх. Не павінна быць грубасці і ўвагі да таго, што другім падабаецца ці не падабаецца, пагарды да людзей, выказанай словам ці позіркам, рухам, учынкам, насмешкай, наўмыснай спрэчкай. Але і залішняй ліслівасці быць не павінна.

### Аб занятках

Вясёлым гульням дзяцей не перашкаджайце. Даўшы дзецям поўную свабоду, можна даведацца аб іх характары і схільнасцях. За вучобу не лаяць, але, калі вучыцца добра, то пахваліць. Страхам навучыць нельга, таму што ў душу, ахопленую страхам, нельга ўкласці навукі болей, чым на дрыжачым лісце напісаць.

## Завязваем "вузельчыкі на памяць"

➽ Калі хочаце даведацца пра недахопы дзяўчыны, пахваліце яе перад сяброўкамі.

*Франклін*

➽ Хто здольны кіраваць жанчынай, здольны кіраваць дзяржавай.

*Бальзак*

➽ Стаўцеся да бацькоў так, як вы хацелі б, каб дзеці вашы ставіліся да вас.

*Леапардзі*

➽ В душе померк бы день,  
И тьма настала б вновь,  
Когда бы из нее  
Изгнали мы Любовь.  
Лишь тот блаженство знал,  
Кто страстно сердце нежил,  
А кто не знал любви,  
Тот все равно, что не жил.

*Мольер*

➽ Самая неразумная жанчына можа ўжыцца з разумным мужчынам, але з дурнем можа ўжыцца толькі самая разумная.

*Лімейрайк*

➽ Жанчыны здольныя на ўсё, мужчыны -- на ўсё астатняе.

*Рэнье*

➽ Няма нічога лягчэй, чым ператварыць пасрэдную жанчыну ў жанчыну выключную. Дастаткова толькі яе пакахаць.

*Соважын*

## Вызначаем уласную перспектыву

Рэзервы чалавечага арганізму вялікія. Пры разумным іх выкарыстанні можна пражыць 100 гадоў і болей. Здольнасць чалавека жыць "даўжэй за норму" адзначалася ва ўсе часы і ўсімі народамі. Вось некаторыя найбольш цікавыя прыклады даўгалецця, якія былі дакументальна зафіксаваны ў літаратуры.

У венецыянскага консула ў Смірне Франца Секардзі Гонга (1587-1702 гг.), пражыўшага 115 гадоў, на сотым годзе жыцця з'явіліся на галаве чорныя валасы, а на 113-м -- прарэзаліся новыя зубы.

У 1905 годзе доктар Морыц у сваёй кнізе аб даўгалецці расказваў пра нейкага Генры Джэнкінса, шатландца, які нарадзіўся ў 1501 годзе і памёр ва ўзросце 169 гадоў. Аднойчы Джэнкінса выклікалі ў суд, каб засведчыць падзею, што адбылася 140 гадоў назад. Ён прыйшоў да суддзі з двума сынамі 113 і 109 гадоў.

Селянін з Вінінгтона (графства Шропшыр) Томас Пар на 102-м годзе жыцця быў асуджаны за незаконную сувязь з маладой жанчынай. У 120-гадовым узросце Пар ажаніўся другі раз, і сын яго ад гэтага шлюбу, Майкл, дажыў да 123 гадоў.

У 1878 годзе сент-луіская газета "Ланцэт" пісала пра мяціса з Калумбіі -- 180-гадовага Мікела Соліса. Урач, які сустрэўся з ім, застаў яго за працай у садзе. Па словах старога, яго доўгажыхарства тлумачылася памераным вобразам жыцця і тым, што ён еў усяго 1 раз на дзень, ніколі не еў гарачага, двойчы на месяц галадаў і тады піў столькі вады, колькі мог выпіць.

Калі ж гаварыць пра самых-самых... амаль неверагодных рэкордах, то, безумоўна, варта назваць англійскага селяніна Томаса Карне, які за свае 207 гадоў перажыў 12 каралей.

252 гады пражыў кітаец Лі Чунюн. Да апошніх дзён Лі Чунюн, які ніколі не хварэў, быў бадзёрым і збіраў у гарах і лясах лекавыя травы.

194-гадовы японскі селянін Мампэ прыехаў у 1795 годзе па запрашэнню імператара ў горад Эдо (старая назва Токіа). Яго суправаджалі 173-гадовая жонка, 153-гадовы сын і 145-гадовая нявестка. Старога багата адарылі рысам, грашыма і з гонарам адправілі дадому. Праз 48 гадоў Мампэ зноў прыязджаў у горад для ўдзелу ва ўрачыстасцях з выпадку адкрыцця новага маста разам са сваёй жонкай і сынам. У той час яму было 242 гады, жонцы -- 221, сыну -- 201.

***Жыць у стылі "БМ" вас вучыць Бабуля Алена***

*Пункт гледжання аўтараў газеты не абавязкова супадае з пазіцыяй рэдакцыі. Адказнасць за дакладнасць фактаў, прыведзенных у артыкулах, нясуць аўтары публікацый.*

**"Беларуская маладзёжная"**
**Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета**
**Заснавальнікі М. КАПЧОНАЎ і І. ЦІШЫН**

**Адрас рэдакцыі: 220134, Мінск, вул. Якубоўскага, 15-1-77**
**Кантактны тэлефон: 57-00-43**
**Пасведчанне аб рэгістрацыі N 882**

**Падпісана ў друк 14 лістапада 1994 г.**
**Мінская паліграфічная фабрыка "Чырвоная зорка" (Мінск, 1-шы Загарадны зав., 3)**
**Кошт праз "Белсаюздрук" 40 рублёў**
**Тыраж 10 тысяч экз.**
**Заказ N 1887**

**Галоўны рэдактар Т. І. МЕЛЬНІЧУК (НІЧЫПАРУК)**